www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 16 (4165)**

24 лютага 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ОФИЦИАЛЬНО

Андрей КОБЯКОВ, премьер-министр:

*– Мы переработали в январе нефти на 0,8 миллиона тонн меньше, чем год назад. За счет этого фактора потеряли 3,3 процентного пункта в промышленности, 4,5 процентного пункта в оптовой торговле. В итоге мы потеряли 1,5 процента валового внутреннего продукта. То есть при поставке нефти на уровне прошлого года ВВП был бы 101 процент.*

(Из выступления на заседании президиума Совета министров.)



Фото БЕЛТА

СІТУАЦЫЯ

## Страсці вакол Курапат

*Ужо некалькі дзён у сталічным мікрараёне "Зялёны Луг" працягваецца супрацьстаянне паміж забудоўшчыкамі і актывістамі.*

На гэтым тыдні актывісты пачалі кругласутачнае дзяжурства ля будоўлі офіснага цэнтра ў "Зялёным Лузе". Гэтае месца знаходзіцца ля Курапат, дзе ў 1929–1941 гадах адбыліся масавыя расстрэлы, што і выклікала абурэнне грамадскасці.

Абаронцы Курапат лічаць, што забудова ўчастка паміж МКАД і вуліцай Мірашнічэнкі стала магчымая таму, што ў 2014 годзе Міністэрства культуры дазволіла зъмяніць граніцу ахоўнай зоны некропаля ў Курапатах. Між тым участак у арэнду быў выдзелены ў 2013 годзе, што было парушэннем і дае фармальную нагоду для адмены рашэння.

Тым часам забудоўшчыкі заяўляюць, што ўсе неабходныя дазволы на будаўніцтва ў іх ёсць.

*"Пытанні трэба ставіць адназначна: чаму зямельны ўчастак, які ўваходзіў у дзейсныя ў 2013 годзе зоны аховы, быў рэалізаваны пад будаўніцтва?* – заявіў пра сваю пазіцыю старшыня Таварыства беларускага добраахвотнага таварыства помнікаў гісторыі і культуры **Антон АСТАПОВІЧ**. – *Чаму ў 2014 годзе, калі гэты ўчастак уваходзіў яшчэ ў ахоўныя зоны, была поўнасцю праігнаравана працэдура працы з Мінкультам, як гэта прадугледжана заканадаўствам? Чаму ў тым жа 2014 годзе Дзяржэкспертыза выдала станоўчае заключэнне па праекце, які не выносіўся тады на грамадскае абмеркаванне, хаця па нормах гэта трэба было рабіць, і не меў у пакеце дазвальняльнай і ўзгадняючай дакументацыі ад Мінкульта?"*

З гэтай нагоды Таварыства аховы помнікаў ужо накіравала адмысловы зварот у КДБ і "Галоўбудэкспертызу", а абаронцы Курапат збіраюцца працягваць кругласутачнае дзяжурства на забудове. Справа ўжо дайшла нават да крывавых сутычак – учора ноччу некалькі дзясяткаў невядомых людзей напалі на актывістаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



Фота svaboda.org



СУД!

### Закрыты працэс

*Працягваецца суд над 15-гадовым гімназістам, якога абвінавачваюць у нападзенні на настаўніцу. Ён праходзіць у закрытым рэжыме.*

Нагадаем, што яго абвінавачваюць у замаху на забойства. Расследаванне справы цягнулася амаль дзевяць месяцаў.

Акрамя таго, стала вядома, што хлопец сваёй віны не прызнае, ад супрацоўніцтва са следствам адмаўляецца. Параненая настаўніца **Валянціна Губарэвіч**, якой, паводле матэрыялаў следства, было нанесена 17 удараў нажом, працягвае працаваць у той жа гімназіі. З улікам прад'яўленага абвінавачвання навучэнцу пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Трэба сказаць, што працэс закрыты, а таму журналісты таксама не маюць права прысутнічаць на пасяджэннях. За той час, што працягваецца суд, ужо дапыталі пацярпелую, настаўнікаў і аднакласнікаў хлопца. Акрамя таго, пажадалі выказацца на працэсе і бацькі школьнікаў, якіх не было ў афіцыйным спісе сведкаў. Многія з іх наракалі на "нетрадыцыйныя" выхаваўчыя метады настаўніцы і казалі так: *"Важна не толькі высветліць, хто ж злачынца, але і зразумець прычыны: чаму нехта накінуўся на настаўніцу? Гэта трэба зрабіць сёння, каб заўтра не адбылося тое ж самае".*

Сама Валянціна Уладзіміраўна крыўдзіцца, што ў СМІ пра яе з'яўляецца шмат недакладнай інфармацыі, хаця і сама нешта казаць адмаўляецца.

*"Пакуль рана даваць нейкія каментары, але пасля заканчэння суда абавязкова распавяду вам падрабязнасці",* – **паабяцала пацярпелая настаўніца карэспандэнту "Народнай Волі".**

**Віктар ШПАК.**

ТЭМА ДНЯ

Алесь БЯЛЯЦКІ:

## «Змены залежаць не столькі ад тонкай праслойкі актывістаў, колькі ад сотняў тысяч людзей»

*У межах праекта «Раскадзіраваць Беларусь» старшыня незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі расказаў «Салідарнасці», чаму з аптымізмам глядзіць на нашу будучыню, калі пачнуцца змены да лепшага і хто з'яўляецца галоўным тормазам развіцця Беларусі. Лічым мэтазгодным давесці гэтую гутарку да чытачоў "Народнай Волі".*



**«Немагчыма, каб несвабодны народ бараніў сваю свабоду»**

**– Што (ці хто) перашкаджае беларусам жыць добра? Адны лічаць, што цэнтр зла – існуючы рэжым, хтосьці кажа, што трэба шукаць прычыну ў саміх беларусах і тых якасцях, якіе мае наша грамадства. А што думаеце вы?**

– Для мяне відавочна, што нашы праблемы маюць карані ў савецкім мінулым. Паколькі я грамадскай дзейнасцю займаюся з 1981 года, то мне ёсць з чым параўнаць.

Вось так, як вы зараз шукаеце праўды, так і мы яе шукалі на пачатку 1980-х. Тады Беларусь у грамадзянскім сэнсе нагадвала Сахару – амаль усё свабодалюбівае, беларускае было выпалена сталіншчынай ды камуністычным рэжымам. Толькі жоўты пясочак, на якім нічога не расло. А калі штосьці з дэмакратычнага, іншадумнага, нацыянальнага ўсё ж такі прабівалася, яно вельмі хутка вырывалася ўладамі.

Існаваў поўны кантроль над чалавекам і ягоным жыццём. Ты нараджаўся ў гэтым агульным стойле, жыў у ярме, не маючы нічога свайго, там цябе і паклалі, выдзеліўшы два заслужаныя квадратныя метры. Вось гэта толькі і было тваё, і тое далёка не для ўсіх.

У гэтай вялізнай несвабоднай краіне ты адчуваў сябе нікім, і імя тваё было – ніхто. Як у турме. Нас усіх, нашых бацькоў і дзядоў білі пад сраку ды яшчэ прымушалі дзякуй крычаць.

У той жа час фармальныя закарэлыя рамкі савецкай дзяржавы задавальнялі далёка не ўсіх. Мы ўжо школьнікамі збіраліся ў двары і слухалі розныя забароненыя галасы: ВВС, Радыё Свабода, "Голас Амерыкі". Гэта была аддушына, голас з іншага свету, які паказваў, што існуе іншае грамадства.

Другі момант – нацыянальнае пытанне, якое таксама для мяне стала актуальным ужо у 9–10 класах. Я зацікавіўся беларускай літаратурай, палюбіў яе, зразумеў яе вартасць і глыбіню. Для мяне было вялікай загадкай: чаму ў нас рускамоўныя школы, дзе роўнасць для беларускай мовы? А калі прачытаў Караткевіча, паўстала пытанне: чаму зараз з усім беларускім склалася так кепска?

Але мой прыклад, прыклад маіх блізкіх сяброў – гэта рэдкі выпадак. У Беларусі было культурна-нацыянальнае дысідэнцтва як форма пратэсту, але ў абмежаваным стане. Большасць жа людзей жылі па тых канонах, якія ўсталявала кампартыя. Адзіны савецкі народ, межы ад Брэста да Курыл, агульныя героямі былі Ленін, Сувораў, Гагарын і Пётр I.

**– І такая сітуацыя была плюс-мінус ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза. А сёння вынік розны.**

– Тыя змены, якія ў нас пачаліся з канца 1980-х гадоў, ішлі вельмі хутка і скончыліся ў 1994-м рэзкім адкатам. Тады як у той жа Украіне гэты перыяд дэмакратычнай трансфармацыі працягнуўся яшчэ на 25 гадоў – дзякуючы таму, што ў іх былі больш моцныя нацыянальныя сілы, большая цяга да еўрапейскіх каштоўнасцяў і Еўропы, нацыянальна арыентаваная ўлада.

З «Дзядоў» 1988-га і па прэзідэнцкія выбары 1994-га Беларусь мела толькі пяць гадоў, калі імклівы ішоў працэс дзяржаўнага і нацыянальнага станаўлення. Тады ў людзей масава адбывалася ўсведамленне такіх рэчаў, якіх раней у галовах нават не было: магчымасць жыць незалежна ад СССР і Расіі, не глядзець у рот Маскве, не прыніжацца, не прасіць дазволу на кожны чых, мець свае войска і межы.

Пабудова дэмакратычнай дзяржавы, развіццё прыватнага бізнесу – гэтыя ўсе тэмы былі з разраду небяспечных і строга забароненых яшчэ зусім нядаўна. Мы былі ўдзельнікамі і сведкамі гістарычнага пералому ў свядомасці беларусаў.

Выдатны прыклад: у 1987 годзе мае сябры-«талакоўцы» павесілі бел-чырвона-белы сцяг над Тэатрам оперы і балета – і ён спакойна правісеў тры дні. Ніхто на яго нават увагі не звяртаў, таму што людзі проста не ведалі, што гэта такое. Ні КДБ, ні міліцыя, ні начальства, ні адміністрацыя гэтага тэатра, ні проста мінакі. Мы смяяліся і пацілалі рукі. Потым нехта ўсё ж заўважыў «крамолу», і сцяг знялі.

І гэта 1987 год! А ўжо ў 1991-м мы дапялі да незалежнасці і з бел-чырвона-белым сцягам, і з "Пагоняй".

Тут вельмі паказальныя вынікі рэферэндуму за захаванне СССР, які праводзіў Гарбачоў у сакавіку 1991 года па ўсіх рэспубліках. Я не пераканаван, але ўсё ж мяркую, што тады галасы яшчэ лічылі. І па гэтых лічбах вельмі добра бачна нацыянальная спеласць падсавецкіх народаў.

Усе краіны Балтыі, Грузія і Арменія ўвогуле адмовіліся ўдзельнічаць і сказалі, што гэта не наша гульня, мы і так незалежныя. Ва Украіне змянілі пытанне рэферэндуму, і 70% грамадзян прагаласавалі за незалежнасць.

А ў Беларусі толькі 16% прагаласавалі за суверэнітэт. Такая частка беларускага грамадства на пачатак 1991 года ўсведамляла незалежнасць Беларусі як каштоўнасць.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

СЯМЕЙНЫЯ СПРАВЫ

## Сяргей Чыж замест Юрыя Чыжа

Кампанія "Трайпл" 25 гадоў асацыіравалася з імем Юрыя Чыжа. І вось стала вядома, што цяпер ёю кіруе яго сын Сяргей.

Што ж, справы сямейныя. Гэта не значыць, што Юрый Аляксандравіч наогул адышоў у бок ад бізнесу, які некалі стварыў. Часова ён заняў пасаду намесніка генеральнага дырэктара кампаніі "Трайпл". А пройдзе справаздачна-выбарчы сход – і ён стане старшынёй назіральнай рады.

Юрыю Чыжу належаць 66,5 працэнта статутнага капіталу. Такім чынам, ён быў асноўным уласнікам кампаніі, ім і застаецца.

**Вольга СКАКУН.**



Фота Tribuna.com

РЭГІЁН

### «Жывая Мова» ў Полацку

*Культурна-адукацыйны праект, які прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, пачаў рэалізоўвацца ў горадзе.*

«Жывая Мова» – гэта супольны праект, які створаны Полацкай гарадской арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і інфармацыйна-культурніцкім цэнтрам «ІніцыАрт».

*– Праца заключаецца не толькі ў тым, каб навучаць беларускай мове,* – сказала «Народнай Волі» кіраўнік цэнтра «ІніцыАрт» Вольга Дамаскіна. – *Мы будзем запрашаць на сустрэчы паспяховых беларусаў і на іх прыкладзе паказваць, што можна размаўляць па-беларуску, развівацца і рабіць паспяховую кар'еру ў любой сферы.*

Плануецца, што творчыя сустрэчы будуць праходзіць у кавярні «Раздол» кожны аўторак у 18.30.

На гэтым тыдні ў Полацку пабываў пісьменнік Уладзімір Арлоў з прэзентацыяй сваёй кнігі «Айчына». На сустрэчы з ураджэнцам Полацка быў сапраўдны аншлаг – наведвальнікі запоўнілі кавярню цалкам.

Арганізатары праекта «Жывая Мова» адзначаюць, што сабралося шмат моладзі, і спадзяюцца, што ў далейшым колькасць жадаючых, якіх цікавіць беларуская мова і гісторыя, будзе толькі павялічвацца.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Мікалай Казека:

## «Ала Цупер рыхтуецца да Алімпіяды»

Спартыўная кар'ера беларускай фрыстайлісткі **Алы Цупер** – суцэльныя ваганні на шалях. Перад Гульнямі-2014 у Сочы спартсменка пакінула вялікі спорт. Выйшла замуж, нарадзіла дачку Лізу. Праўда, затым галоўны трэнер зборнай **Мікалай Казека** і муж Яўген угаварылі яе вярнуцца ў спорт, і вяртанне было проста феерычным – на Алімпіядзе ў Сочы фрыстайлістка заваявала "золата".

*"Ала ў добрым рэжыме адпрацавала два трэніровачныя зборы, але затым высветлілася, што яна зноў чакае дзіця, і трэніроўкі спартсменка спыніла,* – распавёў пасля Гульняў-2014 **Мікалай Казека**. – *Не ведаю, ці канчаткова яна развіталася са спортам альбо пасля родаў вернецца. Спадзяюся, нам не прыйдзецца зноў заклікаць яе, як у мінулы раз..."*

*У 2015 годзе алімпійская чэмпіёнка нарадзіла сына Цімафея, а ўжо праз два гады вырашыла ў чарговы раз вярнуцца ў спорт....*

*– Так, Ала ўжо трэніруецца і рыхтуецца да адказных стартаў,* – распавёў "Народнай Волі" **Мікалай КАЗЕКА**. – *Можа быць, яна ўжо і не збіралася больш выступаць, але відавочна, што ў чалавека яшчэ застаўся і рэзерв, і эмоцыі. Калі ёй хочацца спаборнічаць, то такое жаданне можна толькі вітаць.*

**– Ці цяжка будзе вярнуцца ў добрую спартыўную форму?**

*– Усё будзе залежаць толькі ад яе самой. Аднак я бачу, што Ала адносіцца да свайго вяртання ў спорт вельмі сур'ёзна, не прапускае ніводнай трэніроўкі. Я магу сказаць, што на гэты момант яна выйшла на такі ўзровень камбінацыйнай падрыхтоўкі, што можна рыхтаваць праграму скачкоў. Пасля адпачынку і пачнём над гэтым працаваць.*

**– Мікалай Іванавіч, гэта вы ў чарговы раз угаварылі Алу вярнуцца ў спорт?**

*– Летам гэтага года ў нас была невялікая размова наконт вяртання, але без аніякай канкрэтыкі. Затым яна сама паспрабавала, прыняла рашэнне... На мой погляд, у асноўным на такое рашэнне Алу падштурхнуў прыклад аўстралійскай фрыстайлісткі Лідзіі Ласіла, якая прайшла праз неверагодныя выпрабаванні лёсу, але знайшла ў сабе сілы не толькі вярнуцца ў спорт, але і гучна заявіць аб сабе. Натуральна, я мог сказаць спартсменцы: "Ала, хопіць ужо! Ты і так шмат зрабіла ў спорце". Але ж наадварот – падтрымаў у яе пачынаннях.*

**– Ала будзе ўдзельнічаць у Алімпіядзе-2018?**

*– Безумоўна. Толькі да яе і рыхтуецца...*

**Алесь СІВЫ.**



ДАРЭЧЫ

*Чарговы этап Кубка свету пройдзе ў гэтыя выхадныя (25 сакавіка) ў "Раўбічах". У спаборніцтвах возьмуць удзел каля 70 спартсменаў з 11 краін.*

*Нагадаем, па выніках пяці этапаў Кубка свету сезона 2016/2017 тры беларускія фрыстайлісты ўваходзяць у дзясятку лепшых.*

*Чэмпіён Алімпійскіх гульняў у Сочы **Антон Кушнір** займае 2-е месца, **Максім Гусцік** – 4-е, **Станіслаў Гладчанка** – 6-е.*

*У агульным заліку Кубка свету сярод жанчын лепшая з беларусак – **Аляксандра Раманоўская** (10-е месца).*

ТЭМА ДНЯ

## Алесь БЯЛЯЦКІ:
# «Змены залежаць не столькі ад тонкай праслойкі актывістаў, колькі ад сотняў тысяч людзей»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Затым падзеі пайшлі так хутка, што ўжо ў канцы 1991-га адбыліся Белавежскія пагадненні, і мы атрымалі поўную незалежнасць.

**– Атрымліваецца, незалежнасць тагачасным беларусам збольшага была не патрэбна? І ў 1994 годзе людзі з радасцю прагаласавалі за чалавека, які, па сутнасці, паабяцаў адкруціць сітуацыю назад…**

– Беларускае грамадства ў цэлым не было падрыхтавана да такіх хуткіх змен. Асабліва старое пакаленне беларусаў не разумела каштоўнасці незалежнасці і не было гатовае дзеля яе ахвяраваць.

Чаму ў нас адбыўся адкат у 1994 годзе? Невысокая нацыянальная свядомасць мела галоўнае значэнне. Значную ролю адыграў да ўсяго яшчэ і эканамічны крызіс. Ахвярным казлом для ўсіх аказаліся дэмакраты. Парадаксальная сітуацыя: партыйная наменклатура, якая рэальна кіравала краінай на той час, пераваляла стрэлкі адказнасці на БНФ, які змагаўся ў апазіцыі, ды на Шушкевіча, які не меў вялікай улады ды і не хацеў тую ўладу мець.

Атрымалася, што для большай часткі народа ідэалагічна і псіхалагічна камфортна было вярнуцца ў той эсэсэсэраўскі стан. Леглі на душу абяцанкі Лукашэнкі «адвесці народ ад прорвы», наладзіць «бяздарна панішчаныя» сувязі з Расіяй, фактычна зноў адрадзіць Савецкі Саюз.

Мы прыйшлі да сваёй незалежнасці ў недаспелым стане. Беларусы не выспелі як нацыя. У 1930-х гадах беларуская інтэлігенцыя ў БССР была амаль уся выбіта. Тое самае адбывалася і ў Заходняй Беларусі, дзе беларусам не давалі магчымасці падымаць галаву, не было ні беларускіх гімназіяў, ні свайго ўніверсітэта. Пасля вайны ўлады актыўна праводзілі палітыку русіфікацыі і дэнацыяналізацыі беларусаў. З нас, як з той гліны, ляпілі савецкі народ – без мовы, без гісторыі і без сваёй культуры.

Працэс фарміравання беларускай нацыі, беларускага этнасу працягваецца фактычна да сённяшніх дзён. І гэта нягледзячы на тое, што палітыка і ідэалогія ўжо незалежнай дзяржавы, як гэта ні парадаксальна, была ўвесь час антынацыянальная, антыбеларуская. Параўнайце: у Мінску ў 1994 годзе ў беларускіх школах вучылася больш за палову дзяцей, зараз – 1,5%. Гэта тое, што мы маем за 22 гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі ў нацыянальнай адукацыі.

Але працэс ідзе. І я не скажу, што мы топчамся на адным месцы. Не.

**– Ідзе дзякуючы каму?**

– Дзякуючы самому факту існавання незалежнасці, існавання сваёй дзяржавы. Яна рэальна фарміруе нацыю, фарміруе народ.

У 1980-я гады мы ўсіх, хто гаварыў па-беларуску, хто хоць нешта рабіў для Беларусі, ведалі ў твар. Зараз для соцень тысяч, а можа, і для мільёнаў людзей беларуская ідэя – гэта каштоўнасць.

Вось тая ж улада столькі гадоў арыентавалася на Расію – і чым усё скончылася?

**– Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: з аднаго боку, улада дастаткова антыбеларуская, дакладней абыякавая да нацыянальных каштоўнасцяў, саўковая, і ў той жа час, паколькі яна са сваіх кан'юнктурных мэт зацікаўлена ў захаванні суверэннай дзяржавы, яна спрые нацыянальнаму развіццю хаця б ускосна.**

– Безумоўна. Я думаю, што і там, ва ўладзе, багата каго вось гэты 25-гадовы перыяд нашай незалежнасці развярнуў тварам да Беларусі. Я вельмі спадзяюся, што, нават трымаючыся за ўладу дзеля матэрыяльных інтарэсаў, прысмактаўшыся да дзяржавы, як п'яўкі да беларускага цела, гэтыя людзі тым не менш маюць разуменне агульнай каштоўнасці нашай незалежнасці.

Але для мяне таксама зразумела, што незалежнасць Беларусі будзе мець устойлівасць і перспектыву, калі яна будзе моцна звязана з дэмакратычнымі прынцыпамі пабудовы дзяржавы і грамадства. Бо немагчыма, каб несвабодны народ бараніў сваю свабоду. Калі гэтага няма, калі людзей трымаюць за масу, як было ў Савецкім Саюзе і ў нас зараз, калі людзям не давяраюць адказнасць за Беларусь, тады няма і падмурка для свядомай абароны сваёй дзяржавы.

Згадваюцца гістарычныя паралелі. Калі ў 1794 годзе Якуб Ясінскі ўзняў паўстанне ў Вялікім Княстве Літоўскім супраць расійскіх акупантаў, дык першае, што было зроблена паўстанцамі, – дадзена свабода прыгонным сялянам. Неўзабаве войска паўстанцаў напалову вырасла за кошт сялян, касінераў, якія адчулі грамадзянскую адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і былі гатовы ахвяраваць дзеля яе жыццём.

**– А ў сённяшнім стане наш народ гатовы бараніць сваю незалежнасць, калі такая неабходнасць узнікне?**

– Гэта тое пытанне, на якое я не маю адказу. Колькі з 9,5 мільёна беларусаў гатовы выступаць за незалежнасць і хоць нечым дзеля яе ахвяраваць?

Мы разумеем, наколькі ілюзорная дзяржаўная сіла. Падзеі ў Крыме выдатна паказалі гэта. 90% сілавікоў, вайскоўцы, паліцыя, спецслужбы перайшлі на расійскі бок. Нехта выключна з меркантыльных інтарэсаў, бо там плацілі больш. Але самае галоўнае – не было разумення, што Украіна – гэта свая дзяржава, тая каштоўнасць, якую трэба абараняць.

А што маем мы? Беларусь фармальна незалежная. Але на якім баку акажацца войска, спецслужбы, не дай Бог? Яны сядзелі ў расійскіх акадэміях пяць гадоў за адной партай, пілі разам, гулялі, а зараз што, ваяваць будуць адзін супраць аднаго?

Інстытуцый, якія па-сапраўднаму настроены бараніць Беларусь, мала. Вось чым павінен займацца Лукашэнка, калі хоча захавацца сам, хаця б на нейкі час, і захаваць дзяржаву. А пагрозы, на жаль, сталі рэальнасцю.

Жаданне расійскай палітычнай эліты ўзяць рэванш за развал Савецкага Саюза, мабыць, асноўнае, што ляжыць у аснове міжнароднай палітыкі Расіі. І найперш гэта пагражае іншым постсавецкім краінам.

### «Доўгі час людзей падкормлівалі проста з рукі і за гэта патрабавалі палітычнай лаяльнасці»

**– Ці згодны вы з амбасадарам Беларусі ў Кітаі Кірылам Рудым, які лічыць, што трэба раскадзіраваць грамадства, што наша развіццё тармозяць культурныя бар'еры: спажывецкія адносіны, прыярытэт роўнасці над багаццем, арыентацыя на савецкае мінулае, гігантаманія, матывацыя пагрозамі, ухіленне ад адказнасці і балючых рашэнняў.**

– Багата пад чым з гэтага мы ўсе падпішамся. Гэта ўсё хібы постсавецкага грамадства і аўтарытарнай, персаніфікаванай улады. Менавіта постсавецкі кансерватызм мне бачыцца асноўнай праблемай, прычынай боязі чагосьці новага, пэўнай нерашучасці.

Зноў жа гістарычна можна зразумець, адкуль ідзе гэты страх. Яшчэ ў 1980-я гады, калі мы, маладыя, займаліся беларускімі справамі, мая будучая цешча казала сваёй дачцэ: «Глядзі, па Сашу яшчэ прыедзе машына, забяруць і звязуць». Яны тады добра памяталі, як гэта было ў 1930-я гады і пасля вайны.

І гэтая боязь нікуды не падзелася, яна перайшла ў наша грамадства. Улады працягваюць культываваць страх як метад кіравання людзьмі.

Урэшце, па вялікім рахунку мая цешча і не памылілася. У 2011 годзе прыехалі, забралі і звезлі на тры гады. Адзінае добра, што не ў Сібір.

**– Але ці можна перамагчы гэты страх?**

– Нам патрэбна добрае ўзрушэнне. І яно можа адбыцца з-за эканамічнага крызісу. Ёсць пэўная мяжа, да якой людзі цярпяць, але потым ужо гэтае цярпенне сканчваецца, і страх адступае.

Нацыянальныя, духоўныя ці іншыя каштоўнасці важныя толькі для пэўнай часткі грамадства, не ўсе гатовы дзеля іх ахвяраваць. Але калі пустая лядоўня і няма чаго есці, тады людзі пачынаюць больш актыўна адстойваць свае правы. Зараз мы бачым пэўную актыўнасць па пытанні «дармаедства». Гэта закранула шмат каго, цэлы слой людзей.

Але ўлада хітра робіць. Яна заўсёды ставіць на большасць, прыціскаючы меншасць. Гэта тычыцца і палітычнай сітуацыі, і нейкіх эканамічных пытанняў.

**– Аднак калі скласці гэтыя меншасці, якія прыціскала ўлада 20 з нечым гадоў, атрымаецца даволі вялікая частка насельніцтва. Забралі льготы ў чарнобыльцаў, потым пенсіённая рэформа, прадпрымальнікі, «дармаеды», дэмакратычная супольнасць...**

– Людзі ж атрымлівалі не толькі негатыў, але і пазітыў. Калі ў іх штосьці забралі, то штосьці і далі, напрыклад, ільготныя крэдыты, і яны куплялі сабе кватэры, машыны. То бок гэты працэс ішоў не ў адзін бок. Улады заўсёды імкнуліся знаходзіць сацыяльныя пернікі і размяркоўваць іх сярод значнай часткі людзей, дзякуючы чаму і мелі падтрымку.

Што ты мог пяць гадоў таму сказаць чалавеку, які будаваў хату за льготны крэдыт, і ў якога дзеці за 500 долараў заробку працаваць не хацелі? Даволі доўгі час людзей падкормлівалі проста з рукі і за гэта патрабавалі палітычнай лаяльнасці, патрабавалі заплюшчваць вочы на парушэнні правоў і свабод.

Зараз эканамічная сітуацыя змянілася, Лукашэнку прыходзіцца прымаць непапулярныя рашэнні, і ў грамадстве рэзка вырасла незадаволенасць палітыкай улад. Людзі шукаюць адказу на пытанні: хто вінаваты і што рабіць?

**– Ці не падаецца вам, што адна з такіх фундаментальных прычын таго, што мы маем, гэта дэфіцыт салідарнасці паміж беларусамі?**

– І тут нічога новага. Яшчэ Гавел пісаў, што галоўная задача камуністычнай улады ў Чэхаславакіі ў 1970-я гады была аддзяліць грамадскае жыццё ад прыватнага. Даць магчымасць людзям жыць і займацца сваімі справамі, але з умовай не ўлазіць у справы дзяржаўныя: мы будзем кіраваць, а вы будуйце хаты, жаніцеся, разводзьцеся, купляйце, што можаце купіць.

Атамізаванае, дысперснае грамадства, замкнёнае на сваіх праблемах, не звязанае паміж сабой сацыяльнымі ніткамі, – гэта мара любой аўтарытарнай улады.

Праблема з нерэгістрацыяй грамадскіх арганізацый, якая ў нас існуе, – выразная лакмусавая паперка. У нас грамадскіх арганізацый у 10 разоў менш на душу насельніцтва, чым у нашых суседзяў – палякаў ці ўкраінцаў. Гэта зроблена, каб не ствараліся грамадскія сувязі любога кшталту.

А яшчэ Гавел пісаў, што для таго, каб запалохаць грамадства, аслабіць людскую салідарнасць, неабавязкова ў турме трымаць тысячу чалавек – дастаткова пасадзіць 5–7. Гэта дакладна наша сітуацыя.

### «Хочаш змяніць мазгі – змяні гісторыю»

**– Але з усяго гэтага вынікае, што праблема ўсё ж ва ўладзе. Зменіцца яна – і што, беларусы будуць ужо іншыя?**

– Улада – гэта ж пэўная сістэма бюракратыі. Яна нараджае сабе падобных. Таталітарная эсэсэсэраўская ўлада зараз перайшла ў больш лёгкі беларускі варыянт, стаўшы аўтарытарнай, але ўсё роўна яна імкнецца захавацца ў той форме, якая ёсць.

На сёння, я перакананы: беларускае грамадства перарасло кансерватызм беларускіх улад і асабіста Лукашэнкі. Але няма механізмаў для трансфармацыі.

Я ўжо казаў, што эканамічныя цяжкасці могуць прывесці да сур'ёзных змен. Як гэта было на пачатку 1990-х гадоў. Рэзкае павышэнне коштаў вывела людзей на плошчу пад эканамічнымі лозунгамі. Але праз дзве гадзіны на плошчы з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі і загучалі палітычныя лозунгі з патрабаваннямі змяніць уладу. Палітызацыя пратэсту адбылася імгненна і на вачах.

Пэўныя ўмовы для змен у грамадстве існуюць. Аднак гэта залежыць не столькі ад тонкай праслойкі актывістаў, колькі ад сотняў тысяч людзей, ад таго, наколькі яны гатовы пратэставаць і адстойваць дэмакратычныя змены ў грамадстве.

**– Нам трэба пачакаць, калі людзі самі выйдуць на плошчу, а потым несціся туды са сваімі бел-чырвона-белымі сцягамі? Бо зараз атрымліваецца, што мы, наадварот, спрабуем дапамагчы людзям прыстасавацца да сітуацыі, дапамагаем, як з тымі ж лістамі для «дармаедаў», паменшыць гэтую незадаволенасць жыццём, тым самым адцягваючы іх актывізацыю.**

– Я не думаю, што «дармаеды» стануць тым рашаючым рухавіком і зменяць нашу сітуацыю. Ёсць розныя варыянты змен. Напрыклад, як у Лацінскай Амерыцы, дзе адбыўся пераход ад аўтарытарнай улады да дэмакратыі. Яны найбольш прывабныя, канешне. Але без пэўнага ціску грамадства на ўлады гэта немагчыма.

Іншая справа, што не хацелася б, каб гэта адбывалася па гвалтоўным сцэнарыі. Бо сілавое супрацьстаянне прыносіць такія надломы і раны для грамадства, якія цяжка залячыць нават наступнымі рэформамі і станоўчымі зменамі. Але кожны народ сам выбірае свой шлях.

Класічная сітуацыя: у Празе ў канцы 1980-х выйшаў мільён людзей на плошчу, а праз тыдзень улада ўжо перайшла да дэмакратычнага ўрада. Гэтага ніхто зусім не чакаў. Але быў і румынскі варыянт, калі на загад улад была праліта кроў людзей, і дыктатара Чаўшэску расстралялі без суда.

З другога боку, шмат гавораць і пра тое, што верагодным зменамі можа скарыстацца Расія. Над гэтым трэба думаць. Але я мяркую, што цвёрдая ўзважаная пазіцыя дэмакратычных сіл пры такім суседзе, які мае свае палітычныя інтарэсы ў Беларусі, дае нам шанц дамагчыся поспеху.

**– А дзе гарантыя, што беларусы з тымі савецкімі ўстаноўкамі, якія ў іх так клапатліва пэсціла гэтая ўлада, зноў не абяруць сабе новага Лукашэнку?**

– Так, частка кансерватыўнага грамадства, на якую абапіраўся Лукашэнка ўвесь гэты час, нікуды не падзелася. Звычайна гэта людзі прарасійска настроеныя, з невялікіх гарадоў, з невысокім узроўнем адукацыі, савецкага кансерватыўнага выхавання. Ці мала мы чулі, стоячы на мітынгах: «Сталіна на вас не хапае!»?

Жаданне моцнай рукі ў пэўнай часткі нашага грамадства застаецца. І з гэтым нам жыць. Трэба ўлічваць гэта і імкнуцца знаходзіць паразуменне. З аднаго боку, прапаноўваючы і падтрымліваючы еўрапейскі шлях развіцця для дэмакратычна настроеных людзей, а з другога – не адразаючы тую частку грамадства, якая не гатова да змен.

Вось такая складаная задача. Я думаю, што яшчэ наступную чвэрць стагоддзя мы будзем жыць у гэтай няпростай сітуацыі падзелу беларускага грамадства.

Але галоўнае – мы павінны не разуверыцца, не скласці рукі, не пераключаць свае высілкі з грамадскіх інтарэсаў на прыватныя. Бо гэта тое, чаго хацела б ад нас улада.

Лукашэнка не раз заяўляў раней: не падабаецца – з'язджайце за мяжу, я тут буду з тымі, хто мяне падтрымлівае. Зараз ён, праўда, гэтага не кажа, бо, мабыць, разумее, што ўяўляюць сабой яго прыхільнікі і які ўзровень іх інтэлекту ды патрыятызму.

Таму нам трэба набірацца трываласці і працаваць.

**– Рабі, што мусіш, і няхай будзе, што будзе?**

– Будзе ўсё добра! Адназначна. Нягледзячы на тыя цяжкасці, з якімі мы сутыкаемся – Лукашэнка з ягонай бяздарнай камандай, значная частка грамадства, арыентаваная на цвёрдую руку, – мы ўсё адно ідзём наперад.

Калі мы вытрываем яшчэ гадоў 10, то павярнуць назад ужо будзе цяжка.

Так, багата ў каго сёння каша ў галаве. Але ж у 1980-х у галовах увогуле амаль нічога не было. Калі ж закладзеныя пазітыўныя веды і вопыт, калі чалавек тым ці іншым чынам падрыхтаваны да змен, тады значна прасцей рухацца наперад.

Праца мусіць ісці праз культурныя акцыі, праз падручнікі, праз асвету і вольнае слова, урэшце праз эканоміку. Апошнія два гады ўлады зразумелі, што для грамадскіх ініцыятыў трэба, прынамсі, даць калі не зялёнае, дык хоць жоўтае святло. Запатрабаванне ёсць. Гляньце, які фурор выклікала апошняя прэзентацыя кнігі «Айчына» Уладзіміра Арлова і Паўла Татарнікава, людзі стаялі ў чэргах па беларускамоўную кнігу!

Хаця ёсць і іншыя прыклады. Прачытаў, што з падручнікаў выкраслілі раздзел пра сталінскія рэпрэсіі. Улады нявечаць гістарычную памяць. Просты спосаб: хочаш змяніць мысленне – змяні гісторыю. На жаль, сённяшняя афіцыйная версія гісторыі – гэта ў пэўным сэнсе адбітак уяўленняў Аляксандра Рыгоравіча пра лёс Беларусі.

Але ўсё не безнадзейна. Як казаў Ніл Гілевіч, перажылі лета гарачае, перажывём і г… сабачае.

У нашай гісторыі за апошнія 100 гадоў былі такія адчайныя, здавалася б, безнадзейныя сітуацыі, што, здаецца, усё, гамон… Але ж, дзякуючы самаахвярнасці нашых папярэднікаў, неяк выходзілі на лепшае.

Трэба больш рабіць для Беларусі: у розных накірунках, але з адзінай мэтай – мець вольную, дэмакратычную і заможную Беларусь. Вось тады ўсё ў нас будзе добра.

**Анастасія ЗЕЛЯНКОВА, Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Юрий Островский может стать дважды лауреатом Государственной премии Беларуси

*«Шансы велики, но не хочу рассуждать о том, что от меня не зависит», – замечает Юрий Петрович.*

Известный кардиохирург – в числе номинантов на Госпремию в области науки и техники за 2016 год. Правда, он не единоличный соискатель, а в команде врачей-трансплантологов. Вместе с Юрием Островским в нее вошли руководитель РНПЦ трансплантации органов и тканей **Олег Руммо,** заведующий отделом трансплантологии РНПЦ **Алексей Щерба**, руководитель отдела анестезиологии и реанимации РНПЦ **Александр Дзядзько**, заведующий отделом нефрологии, почечно-заместительной терапии и трансплантации почки 9-й больницы Минска **Олег Калачик** и заведующий отделением анестезиологии и реанимации РНПЦ «Кардиология» **Андрей Валентюкевич.** Работа медиков называется «Разработка и внедрение технологий трансплантации органов у детей и взрослых», представлена она на высшую награду страны Министерством здравоохранения.

В 1996 году Юрий Островский стал лауреатом Государственной премии Беларуси в области науки и техники за разработку и внедрение искусственного клапана сердца «Планикс». Остальные врачи на высокую госнаграду номинируются впервые. И если войдут в число победителей, то Юрий Островский станет первым в современной Беларуси медиком – дважды лауреатом Государственной премии страны. В советское время похожего успеха достиг известный белорусский уролог, академик, министр здравоохранения Беларуси и, к слову, хирург, который первым в Беларуси осуществил пересадку почки, **Николай Савченко**. Он был удостоен звания лауреата Государственных премий СССР и БССР.

Указ о присуждении государственных премий 2016 года должен подписать Александр Лукашенко.

– *Думаю, что у нашей команды шансы велики*, – говорит Юрий Островский. – *Но я не хочу рассуждать о том, что от меня не зависит. Работа проделана колоссальная, в 2008 году мы начинали фактически с нуля, а сегодня пересаживаем все органы. Ситуация в отрасли вышла на новый виток. И, конечно, будет очень приятно, если страна оценит наши старания и заслуги.*

В ТЕМУ

## Раз в четыре года

С 2016 года три государственные премии в области науки и техники, а также три премии в области литературы, искусства и архитектуры будут присуждаться раз в четыре года. Ранее лауреатов выбирали раз в два года. Размер премии – 3,5 тыс. базовых величин. Сегодня это составляет 80 тысяч 500 рублей, или около 43 тысяч долларов по курсу Нацбанка. Сумма небольшая, но по сравнению с тем, как лауреатов оценивали в середине 1990-х, – это уже хоть что-то.

Государственная премия присуждается одному соискателю или коллективу соискателей, состоящему не более чем из 6 человек. Во втором случае общая сумма премии делится между членами команды.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРАГНОЗ

# Беларусь адзіная ў мінусе

У гэтым годзе, паводле прагнозаў Сусветнага банка, краіны СНД чакае рост ВУП – ад 1,2% да 7,4%. І толькі валавы ўнутраны прадукт Беларусі будзе з адмоўным паказчыкам. Нават перспектывы эканомікі Украіны Сусветны банк ацэньвае больш аптымістычна, чым перспектывы эканомікі нашай краіны.

### Як будзе расці ВУП краін СНД у 2017 годзе (прагноз):

**Узбекістан** – 7,4%
**Туркменістан** – 6,5%
**Грузія** – 5,2%
**Таджыкістан** – 4,5%
**Кыргызстан** – 3,0
**Малдова** – 2,8%
**Арменія** – 2,7%
**Казахстан** – 2,2%
**Украіна** – 2,0%
**Расія** – 1,5%
**Азербайджан** – 1,2%
**БЕЛАРУСЬ** – -0,5%

Калі спраўдзіцца прагноз Сусветнага банка, гэта будзе азначаць, што ВУП Беларусі зніжаецца трэці год запар: у 2015 годзе ён упаў на 3,8%, у 2016-м – на 2,6%. Праўда, нельга не заўважыць, што ідзе запавольванне тэмпаў падзення. Значыць, нейкая станоўчая дынаміка ўсё ж такі назіраецца. І назіраецца, паводле высновы эканаміста Сусветнага банка Кацярыны Вашакмадзэ, дзякуючы «*аднаўленню ўзроўню цэн на сыравінныя тавары, асабліва нафты – пасля рэзкага падзення ў 2014 годзе, а таксама паслабленню геапалітычнай напружанасці ў рэгіёне*».

ДАРЭЧЫ

## Кітай лідзіруе

Прагнозы Сусветнага банка сведчаць, што не толькі ў краінах СНД – ВУП усіх буйных эканомік свету ў 2017-м будзе расці хутчэй, чым у 2016 годзе. Напрыклад, чакаецца, што ВУП ЗША ў 2017-м вырасце на 2,2% супраць 1,6% у 2016 годзе. Але да аналагічнага паказчыка Кітая Злучаным Штатам Амерыкі далёка.

### Сусветны банк прагназуе такі рост ВУП:

**Кітай** – 6,5%
**ЗША** – 2,2%
**Еўрасаюз** – 1,5%
**Вялікабрытанія** –1,2%
**Японія** – 0,9%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СУД ДЫ СПРАВА

## АЛЕНА ЛУЦКОВІЧ:
# «Прайду ўсе інстанцыі…»

*За вулічнае апытанне пра выбары актывістка Аб'яднанай грамадзянскай партыі атрымала штраф у памеры 345 рублёў.*

Наша газета распавядала пра гісторыю, якая адбылася з сябрам АГП і былым кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў **Аленай Луцковіч.** Каля месяца таму актывістка праводзіла ў райцэнтры Акцябрскі Гомельскай вобласці вулічнае апытанне для свайго блога. Жанчына хацела пачуць меркаванне жыхароў пра выбары – наколькі яны празрыстыя і справядлівыя.

У выніку сярод звычайных грамадзян Алене сустрэліся і чыноўнікі з мясцовага райвыканкама, якія глыбока абурыліся такімі "прыставаннямі". У міліцыю патэлефанаваў намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай працы райвыканкама **Сяргей Зарычны**, які вырашыў, што парушаецца грамадскі парадак.

На Алену Луцковіч быў складзены пратакол, а днямі суд Акцябрскага раёна разгледзеў гэтую справу.

*"Суддзя вырашыла, што я вінаватая ў дробным хуліганстве, бо быццам бы назойліва спыняла грамадзян і чаплялася да іх,* – распавяла актывістка. – *Насамрэч я збіраюся браць удзел у мясцовых выбарах, таму проста вырашыла даведацца ў людзей, што яны ўвогуле думаюць пра наша выбарчае заканадаўства. Тым не менш мяне пакаралі штрафам у памеры 15 базавых велічынь (345 рублёў). Нічога дзіўнага тут няма, бо якога яшчэ рашэння можна было чакаць у раённым судзе, калі разглядалася справа, якую ініцыявалі чыноўнікі з мясцовага райвыканкама? Зрэшты, плаціць штраф пакуль не збіраюся, і ў бліжэйшы час абскарджу рашэнне раённага суда ў абласным. Увогуле, гатова прайсці ўсе інстанцыі".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**



ПАМЯЦЬ

# Такім ён быў…

*25 лютага выдатнаму беларускаму паэту **Алесю ПІСЬМЯНКОВУ** споўнілася б 60 гадоў. З іх 13 гадоў, як яго няма з намі. Але жыве і чытаецца яго светлая і празрыстая паэзія. Бо і сам паэт быў светлы.*
*Мне пашчасціла разам з Алесем Пісьмянковым бываць у многіх кутках роднай Беларусі, выступаць у розных чытацкіх аўдыторыях, наведаць яго Бялынкавічы ў Касцюковіцкім раёне і маю Патапаўку на Буда-Кашалёўшчыне, два леты запар правесці колькі дзён на Браслаўскіх азёрах і, адпачываючы ў пісьменніцкай "Іслачы", паблукаць па ракаўскіх сцежках, паўтара года папрацаваць у рэдакцыі часопіса "Вожык".*
*У нас з Алесем не было сакрэтаў. Часам мы адкрываліся адзін аднаму настолькі, наколькі не адкрываліся, бадай, самым родным і блізкім. На жаль, пра многае з таго, у чым мне прызнаваўся сябар, асабліва ў апошнія месяцы і дні свайго кароткага і няпростага жыцця, я нікому не магу сказаць і сёння. Гэта наша, асабістае.*
*Але было і іншае, тое, што навідавоку. І сумнае, і вясёлае. Сёе-тое з гэтага іншага, занатаванага ў памяці, – перад вамі.*
*А творчасць Алеся Пісьмянкова – гэта справа літаратуразнаўцаў. І яна вартая самага сур'ёзнага даследавання.*

## Першы верш

"Калі вы напісалі свой першы верш?" – гэта, бадай, самае распаўсюджанае пытанне, якое чытачы задаюць на сустрэчах з паэтам.

Не мінала яно і Алеся. Сапраўды, калі?

А было гэта, па яго ўласным прызнанні, у чацвёртым класе. Усе хлопчыкі хадзілі па вушы закаханыя ў сімпатычную аднакласніцу. Алесь, безумоўна, не выключэнне. І аднойчы, асмялеўшы, ён напісаў верш і перадаў дзяўчынцы. Пасланне складалася з двух рыфмаваных радкоў:

*Удзень і ўноч парой вясновай*
*Люблю я Таньку Раяўнёву.*

Нейкім чынам Алесева прызнанне трапіла да настаўніцы, і Алена Трыфанаўна (так, па-мойму, яе звалі) з абурэннем: маўляў, калі ўсе ў класе рашаюць задачы, гэты нягоднік сачыняе любоўныя запіскі, – паставіла закаханага вучня ў кут. "Пакуль я там стаяў, – распавядаў Алесь, – напісаўся яшчэ адзін верш. Мне спадабалася, і адтуль усё пайшло".

Вось так з таго класнага кута на ўроку арыфметыкі і сягнуў будучы паэт на літаратурны абсяг ды ўзняўся на такую вяршыню, якая тады, у школьныя гады, наўрад ці бачылася і самому Алесю, і яго настаўніцы Алене Трыфанаўне. Дзякуй ёй і нізкі паклон!

Пасля ўжо, як паэта не стала, завітаўшы ў Бялынкавіцкую сярэднюю школу разам з пісьменнікамі Васілём Ткачовым і Аляксандрам Бардоўскім, які да Алеся закончыў яе і вельмі шмат зрабіў для ўшанавання памяці свайго малодшага земляка, я падчас выступлення прапанаваў настаўнікам:

– Вы ж ведаеце той клас і той кут, у якім стаяў Алесь. Павесьце ў ім мемарыяльную шыльду з надпісам: "У гэтым куце нарадзіўся беларускі паэт Алесь Пісьмянкоў". Магчыма, кут такога кшталту будзе адзіным у свеце.

Зрэшты, і адкрыць шыльду можна было б урачыста на Магілёўскім абласным свяце паэзіі і песні "Пісьмянкоў луг", якое ўжо не першы год ладзяць на радзіме паэта.

## Там, дзе пачынаецца Бесядзь

Колькі памятаю, Алесь жыў запаветнай марай – наведаць выток і вусце Бесядзі. "Добра было б і па ўсёй рацэ – ад краю да канца – праплысці – казаў пры гэтым, – ды гэта не ажыццявіма. А вось выток на Смаленшчыне і вусце пры ўпадзенні ў Сож на тваёй Гомельшчыне – гэта рэальна..."

І я разумеў сябра, бо Бесядзь была не толькі ракой Аркадзя Куляшова, а і яго, Алесевай. На Бесядзі прайшло маленства Пісьмянкова, сюды, у родныя Бялынкавічы, наведваўся ён з Мінска да бацькоў, а пазней – на іх святыя магілы.

Першую частку Алесевай мары, вытокавую, мы ажыццявілі разам; другая ж, вусцевая, на жаль, так і засталася няздзейсненай. Хоць і ў Гомелі з ім былі неадночы, аднак усё неяк не выпадала.

Я добра памятаю той надзвычай спякотны летні дзень, калі з тагачасным галоўным лясніччым Касцюковіцкага лясгаса Міхаілам Шавандам і нейкім раённым аграбеспячэнцам за рулём уазіка выбраліся на Смаленшчыну – дзякуй Богу, ніякага пагранпаста на мяжы з Расіяй не існавала. Прыехалі ў вёску, за якой дзесьці там, у балоцістым вербалозе, з крынічкі і павінна была выцякаць Бесядзь. У праваднікі прыхапілі мясцовага старажыла, які першым трапіўся на нашым шляху. Спачатку ехалі на машыне, а потым, калі зямля стала больш нізіннай, пакінулі яе на сушэйшым месцы і далей прадзіраліся праз густыя, усыпаныя камарэчай кусты ў крапіве пехатой.

– Вось ён, выток! – усклікнуў нарэшце Алесь, першым натрапіўшы на бруістую крынічку. Скінуў кашулю, схіліўся і, набраўшы поўныя прыгаршчы студзёнай крынічнай вады, лінуў на сябе, пачаў расціраць спатнелае ад хады і сонца цела. А ўбачыўшы, што я стаю застыла ўзбоч, загукаў:

– А ты, Толік, што як сонны? Абдайся! Уяўляеш, мы на вытоку Бесядзі!

Каб улагодзіць сябра, я таксама падступіўся да крыніцы, набраў у прыгаршчы вады і лена плюхнуў сабе на твар – вядома ж, зрабіў гэта не з такой замілаванасцю, як Алесь.

Зрэшты, я рэдка бачыў яго такім натхнёна-шчаслівым, як у той момант. Здавалася, што Алесь ля гэтай крынічкі як бы наноў нарадзіўся.

...Кажуць, што ў свой апошні прыезд у Бялынкавічы на магілы бацькоў (гэта было якраз на Радаўніцу, 20 красавіка 2004 года, літаральна за тры дні да раптоўнай смерці ў Мінску) Алесь значы яшчэ, ледзь заднелася, пайшоў на Бесядзь і прасядзеў на беразе, аж пакуль не наспеў час ехаць у сталіцу. Пра што ён думаў той часінай, гледзячы на рачную плынь? Няўжо прадчуваў блізкае развітанне з ракой не такога ўжо з вышыні сваіх гадоў і далёкага маленства-юнацтва?..

## Пісьменнікі: большы і меншы

Гасцявалі ў бацькоў Алеся Пісьмянкова – у яго родных Бялынкавічах.

Селі снедаць, загаварыліся. Бачу: бацька аж ёрзае на зэдліку. І вось не вытрымлівае:

– Добра, хлопцы, вы тут яшчэ пасядзіце, а я пайду запрагу каня – можа, паспею сена прывезці з лужка, пакуль дождж не лінуў. Вунь як хмары збіраюцца, – кіўнуў праз акно на неба.

– Сядзі, бацька, – супакоіў яго Алесь. – Зараз мы з Толікам Зэкавым прывязём.

– Ага, з Мятліцкім некалі ўжо дроў накалолі, – намякнула на нешта былое маці. – Цяпер так, мабыць, з Зэкавым і сена прывезяце...

Калі ж нарэшце выбраліся на луг, мы з Уладзімірам Сямёнавічам віламі кідалі сена на воз, а Алесь раскладваў-укладваў. І ўсё гаварыў і гаварыў, размахваючы рукамі.

– Злазь, – загадаў неўзабаве бацька, зірнуўшы на скасабочаны воз. – Пісьменнік – ён і ёсць пісьменнік.

– А можа, Сямёнавіч, мне паспрабаваць? – азваўся я.

– Ёсць жаданне – лезь.

Ніколі яшчэ я так не завіхаўся – дужа ж хацелася спадабацца.

– А ў Толіка лепш атрымліваецца, – кінуў праз нейкі час бацька Алесю. – Відаць, ён усё ж меншы пісьменнік.

– Чаму гэта? – баючыся, што я пакрыўджуся на такую пахвалу, зніякавеў Алесь.

– Ды таму, што воз лепш топча, чым ты, – як бы між іншым, спакойна адказаў Уладзімір Сямёнавіч.

## Паклон хаце

Былі ў Гомелі, вечарам завіталі ў маю Патапаўку. Часу асабліва не мелі, таму вырашылі пераначаваць, а назаўтра падабед даехаць на дызелі да Жлобіна, адтуль ужо на пасажырскім скіраваць у Мінск.

Алесь, даведаўшыся, што дзявочае прозвішча маёй маці Зарэцкая, узрадаваўся і пачаў даводзіць, што, магчыма, мы нейкая радня, бо, аказваецца, і ў ягоным родзе ёсць Зарэцкія.

А раніцай наступнага дня прасіў паказаць хату, дзе нарадзіўся мой зямляк паэт Уладзімір Дзюба.

– Хачу пакланіцца, – сказаў. І дадаў пры гэтым: – Я ў многіх пісьменнікаў быў на радзіме. І ведаеш, потым зусім па-іншаму чытаюцца іх творы. Больш зрокава.

Нешта падобнае зведаў і я, пагасціўшы ў яго родных Бялынкавічах.

## Дзесяць вершаў

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтавалі да выдання кнігу Алеся Пісьмянкова "Мы з братам". Трэцюю – для дзяцей. Гэта было якраз падчас нашай сумеснай працы ў часопісе "Вожык": Алесь з'яўляўся галоўным рэдактарам, я – ягоным намеснікам.

– Хочуць выпусціць у цвёрдай вокладцы, але для аб'ёму трэба яшчэ дзясятак вершаў, – патлумачыў мне сябар.

– Дай.

– Але ў мяне іх няма.

– Дык напішы!

– Табе лёгка сказаць, а я з дзіцячымі творамі ўжо завязаў.

І ўсё ж Алесь, пэўна, прыслухаўся да маёй парады, бо на наступны дзень, яшчэ не заходзячы ў свой кабінет, адразу зазірнуў да мяне:

– Слухай, адзін верш учора напісаў. Дзіцячы. Хочаш, чытану?

І тут жа чытануў. А назаўтра – другі, праз дзень – трэці. Так і да дзясятка дагнаў.

А прывёзшы з выдавецтва кнігу, казаў:

– Я і не спадзяваўся, што атрымаецца. Каб не тваё "напішы", можа, і не было б такой прыгожай кніжкі. Гэта ж сам на сябе разлаваўся. Хоць так я ніколі і не пісаў. Як бы пад заказ...

## Давайце развучым

У Алеся ёсць цудоўны дзіцячы верш "Як быць?":

*Без марожанага*
*Гіну.*
*А з марожаным –*
*Ангіна.*

Нейкія сем слоў разам з прыназоўнікамі, а які вобразны малюнак! Не горш, чым рускае хрэстаматыйнае "Наша Таня громко плачет...", на якім выраслі і мы, і нашы дзеці, а цяпер і ўнукі. А вось жа яно сваё, беларускае, можа, нават больш змястоўнае, чым у Агніі Барто. Зрэшты, згаданы Алесеў верш перакладзены на рускую, украінскую і польскую мовы, уключаны ў школьныя чытанкі гэтых краін. А мы кажам: маўляў, няма ў Айчыне свайго прарока.

Нярэдка, калі мы выступалі перад маленькімі чытачамі, Алесь напрыканцы развучваў з імі "Як быць?" на памяць. І пасля абавязкова жадаў: "Расціце здаровенькімі і ніколі не хварэйце!"

Цяпер на сваіх сустрэчах я таксама развучваю гэты верш з хлопчыкамі і дзяўчынкамі. І не пакідае адчуванне, што, як і раней, мы выступаем разам з Алесем.

## Сустрэча за кратамі

Нас, вожыкаўцаў, запрасілі ў Навасады – выступіць у турме перад зэкамі. Паехалі ўтрох: Алесь, я і Павел Саковіч. "Ты, Зэкаў, да сваіх едзеш", – пакеплівалі з мяне па дарозе калегі.

На сустрэчы Алесь знаёміў зняволеных з "Вожыкам": згадваў пра газету-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну", з якой пачынаўся сённяшні часопіс, распавядаў, пра што пішам цяпер. Калі, звяртаючыся да зняволеных, сказаў: "Ля вытокаў "Вожыка" стаяў вядомы вам Кандрат Крапіва", – нехта з залы ці то жартам, ці то ўсур'ёз запытаўся:

– А дзе ён сядзеў?

У іх, аказваецца, свой крытэрый вядомасці.

...Свае ўражанні ад той паездкі Алесь занатуе потым у "Вершы, напісаным у турме". Чытачы, аднак, пазнаёмяцца з ім у кнізе паэта "Думаць вершы...", якая выйшла пасля яго смерці:

*Навасады. Зіма.*
*Год 2003-ці.*
*Месца дзеі – турма;*
*Запрасілі сустрэцца.*

*Ад турмы і сумы*
*Адракацца не будзем,*
*Добра ведаем мы,*
*Што й за кратамі – людзі.*

*Іх зямная юдоль*
*Не найлепшая ў свеце,*
*Іх затоены боль*
*Нельга нам не прыкмеціць.*

*Ну не звер ён, не звер,*
*Той вунь стрыжаны хлопча.*
*Мо ягоны давер*
*Заўтра зона растопча.*

*Анічым не праб'еш*
*Яе панцыр лядовы.*
*Спадзяванне на верш,*
*На гаючае слова.*

Як бачна, дабрыня да людзей, якой заўжды поўнілася Алесева душа, не пакінула яе і ў турме.

## Знаёмства ў лесе

Пасля таго як выйшла шырокавядомая сёння кніга паэзіі, прозы і публіцыстыкі пра чарнобыльскую трагедыю "Прайсці праз зону" (яшчэ першая, бо праз пяць гадоў з'явілася другая), аўтар гэтай ідэі Мікола Мятліцкі загарэўся жаданнем паказаць нашу родную Беларусь з іншага боку: маўляў, не ўся ж яна атручаная, захаваліся і прыгожыя мясціны, напрыклад, Браслаўшчына. Каб прыахвоціць да стварэння браслаўскай анталогіі сяброў-паэтаў, Мікола і арганізаваў некалькі летніх вандровак на тутэйшыя азёры.

Я патрапіў на другое лета. Пасяліліся мы з Алесем асобна ад астатніх – у прыстасаванай пад жыллё бочцы-цыстэрне на маляўнічым беразе Струсты. Побач тулілася лазня, але металічную цыстэрну так за дзень награвала сонца, што ноччу і ў ёй пачуваліся, як у парыльні.

– Затое Міколка бурчаць не будзе, калі чарку возьмем, – цешыўся Алесь. – А то сам цяпер, сабака, не п'е, і нас з табой ушчуваць будзе: маўляў, я ж вас прывёз сюды, каб хараством натхняліся ды вершы пісалі, а не гарэлку жлукцілі...

Раз-другі выплылі на возера з вудамі, а надалей я адмовіўся ад гэтага занятку – не рыбак усё ж. Ды і адкуль узяцца таму рыбацкаму азарту, калі вырас не на рэчцы?!

Пакуль Алесь бавіў час на вадзе, я хадзіў па лесе, збіраў грыбы. Падчас аднаго з такіх блуканняў натрапіў на турысцкія палаткі. Як даведаўся пасля, гэткім чынам адпачывала сям'я з Магілёва: муж з жонкай і дзве іх дачкі-старшакласніцы. Пазнаёміліся, разгаварыліся, гаспадыня пачаставала мяне нават згатаванымі на вогнішчы прысмакамі. Запрашалі яшчэ наведацца.

І я не адмовіўся, тым больш што старэйшая з прыгажунь-дзяўчатак, Алеся, адразу запала ў сэрца. Неяк узяў з сабой і сябра – пазнаёміць з землякамі.

– Дык вось чаму Толік адмовіўся ад рыбалкі, – жартаваў падчас сустрэчы з магілёўскімі турыстамі Алесь і ківаў у мой бок. – Гэты нюхам чуе сімпатычных дзяўчат. Бач ты, нават у лесе вынюхаў, – і звяртаўся да гаспадара: – Глядзіце, за Толікам вока ды вока трэба... А я-та думаю: па якія грыбы ён так бегае? Добрыя сыраежачкі знайшоў, не скажы, добрыя...

Усе зразумелі жарт, асабліва гарэзна, запунсавеўшыся, смяяліся дзяўчаткі. А мы і насамрэч з магілёўцамі пасябравалі, нават у лазню запрасілі. Не памятаю ўжо, ці прыходзілі. Мабыць, не, бо такое я абавязкова запомніў бы.

Затое ўжо ў Мінску пад тымі браслаўскімі ўражаннямі Алесь напісаў верш "Рыбацкая малітва", які ўпершыню быў змешчаны ў зборніку "Браслаўшчына азёрная мая" – тым, дзеля якога і вазіў нас на азёры Мікола Мятліцкі.

...Трынаццаты год няма Алеся, а я ўсё не-не ды і перачытваю ягоны верш – і як бы вяртаюся ў тое спякотнае лета на Браслаўскіх азёрах:

*О, Божа, не дай прапасці,*
*Не рабі недарэкамі,*
*Пашлі нам рыбацкае шчасце,*
*Мне і Толіку Зэкаву.*
*У нас усяго даволі*
*З добрае ласкі Твае,*
*Даволі і хлеба, і солі,*
*А шчасця рыбацкага нестае.*
*І вуды ў нас адмысловыя,*
*А чамусьці ні клёву, ні лову...*
*З нас смяяцца гатовая*
*Студэнтачка з Магілёва.*
*Нібы рыбакі мы ніякія,*
*Нібы мы нічога не ўмеем:*
*– Прывітанне Аксакаву!*
*Добры дзень Сабанееву!*
*О, Божа, не дай прапасці,*
*Не рабі недарэкамі,*
*Пашлі нам рыбацкае шчасце,*
*Як не мне, дык хоць Зэкаву.*

## Рэдактар

Алесь Пісьмянкоў, з якім мне давялося паўтара года працаваць у "Вожыку", быў неверагодна прыстойны, шчыры і адкрыты перад калегамі і сябрамі, ніколі не хлусіў і не выхваляўся. Хоць якраз менавіта Алесь мог бы і пахваліцца сваімі сувязямі з "великими мира сего", бо яго любілі і шанавалі ў самых высокіх кабінетах, і пагаварыць з ім многія лічылі для сябе за асаблівы гонар. Ды і Алесь, інтэлігентны і высокаадукаваны, заўсёды знаходзіў тэму для размовы з любым: міністрам, старшынёй выканкама, рабочым, калгаснікам і нават самым звычайным бамжом. З ім і папраўдзе цікава было кожнаму.

Многія ведалі, што Алесь позна кладзецца спаць і не любіў прыходзіць на працу з самай раніцы – падцягваўся, як выказваўся сам, недзе каля адзінаццатай гадзіны. Не патрабаваў ранняга прыходу і ад супрацоўнікаў: маўляў, чым я лепшы? Галоўны прынцып Алесевага рэдактарства: не перашкаджаць. І ён усё рабіў, каб сцвердзіць гэты прынцып на справе.

Не ўтойваю: у нас з Алесем былі разыходжанні ў метадах кіраўніцтва, часам, здаралася, і сур'ёзна лаяліся, хоць я пры гэтым добра разумеў, што інакшым мой сябар-рэдактар нізавошта не стане. Як і не пакрыўдзіцца ніколі, не затоіць у душы зла.

Аднойчы ў запале чарговай спрэчкі, памятаю, сказаў Алесю: "А можа, мне сысці?" І пачуў у адказ: "А можа, мне? А ты пакіруеш..." На маё "Я ўжо кіраўнічага хлеба за сваё жыццё ўдосталь наеўся" Алесь парыраваў: "А я, хочаш сказаць, не? Іншы раз думаю: кінуць бы працу, купіць дом у вёсцы побач з рэчкай ці возерам – і пісаць. Як у паэта: "Землю попашет, попишет стихи..." Ці не цуд? Ды часопіс шкада. Добра, калі нармальны чалавек прыйдзе, а калі не? І справу загубіць, і калектыў замардуе. У нас жа сімпатычныя людзі працуюць: Валянціна Міхайлаўна Шуст, Іван Бокій, Рыта. Паша Шычко вунь таленавіты, як звер. Пал Палыч, калі ўпрэцца, бібліятэкі на вушы можа паставіць. А Вера Сяргееўна, каля якой ты круцішся, як кот ля слоіка са смятанай, з яе ямачкамі на шчочках – хто так яшчэ здольны смяяцца, а?"

Находзіла, было, дэпрэсія і на Алеся, аднак ад яе ён хутчэй пакутаваў сам. Яшчэ і жартаваў, каб, крый Божа, ягоны стан не перадаўся іншым.

## Пачатак і канец

Дзіўна, але я зусім не памятаю, пры якіх акалічнасцях мы пазнаёміліся. Алесь тады працаваў у апараце Сюза пісьменнікаў – і, магчыма, гэта здарылася ў Доме літаратара на нейкай літаратурнай вечарыне, дзе ён быў амаль нязменным вядучым. Ці, можа, усё адбылося на прэзентацыі маёй кнігі пародый і баек "Дуэль", якую мы там жа ладзілі з прыватным выдаўцом і першым галоўным рэдактарам мінскай гарадской газеты "Добры вечар" Міхасём Расолькам. А мабыць, была нейкая іншая нагода... Адным словам, не памятаю.

Затое апошні дзень Алесевага жыцця – пятніца, 23 красавіка 2004 года – і сёння перад вачыма. Пасля абеду ў рэдакцыю часопіса "Вожык" завітала лагойская паэтэса Ірына Грыгор'ева. Мы абодва пазнаёміліся з дзяўчынай на семінары маладых паэтаў Міншчыны, якія раз на тры гады праводзіць пад тым жа Лагойскам абласная бібліятэка імя А.Пушкіна на чале з няўрымслівым дырэктарам Наталляй Чуевай. Запрошаныя туды ў якасці літкансультантаў, мы адразу вылучылі сярод семінарыстаў найбольш таленавітых. У іх ліку была і Ірына Грыгор'ева.

Дзяўчына пісала па-руску, і Алесь надта шкадаваў, што па гэтай прычыне яе творы нельга прапанаваць у "ЛіМ" ці ў "Маладосць". Тым не менш парэкамендаваў звярнуцца ў "Нёман", дзе Ірына і дэбютавала неўзабаве з падборкай вершаў. Алесь жа з таго часу пачаў падбіваць яе на выданне кнігі. "Таленавітая, але такая ўпартая", – скардзіўся мне, згадваючы сваю літаратурную вучаніцу.

Менавіта рукапіс паэтычнага зборніка Ірына Грыгор'ева і прывезла Алесю ў тую пятніцу. Некалькі хвілін мы пасядзелі ўтраіх, потым я пакінуў іх і пайшоў да сябе ў кабінет. Алесь яшчэ колькі разоў зазіраў да мяне: маўляў, паслухай, як хораша! – і зачытваў асобныя радкі, а то і цалкам нейкі верш Ірыны. Ён, бадай, як ніхто іншы, умеў радавацца ўдачы аўтара і заўсёды спяшаўся падзяліцца гэтым з кожным, каго мог далучыць да свайго адкрыцця.

У той дзень Алесь радаваўся ў апошні раз. А Ірына Грыгор'ева аказалася апошняй, хто размаўляў з ім жывым, і першай, хто пабачыў яго мёртвым. Яна распавядала потым, як усё здарылася, але гэта ўжо яе ўспаміны...

А тады мы ўтраіх – Ірына, Павел Саковіч і я – панеслі самую жудасную вестку ў сям'ю Алеся: жонцы Алене Рыгораўне і сынам Максіму і Аляксею. Тыя сотні метраў, што пралеглі паміж рэдакцыяй "Вожыка" і домам на Калінінградскім завулку, дзе жыў яго галоўны рэдактар, сталі, бадай, самымі пакутнымі ў маім жыцці.

...Апошнюю прыжыццёвую дату з біяграфіі Алеся Пісьмянкова нельга сцерці, таму, пэўна, памяць і не захавала тую, першую. Каб хоць такім чынам пашырыць межы часавай прасторы, у якой мы былі разам.

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

### Наша даведка

Алесь Пісьмянкоў нарадзіўся 25 лютага 1957 года на Магілёўшчыне – у вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна

У 1980 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у касцюковіцкай раённай газеце, сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", узначальваў рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" і часопіса "Вожык".

Першыя вершы надрукаваў у 1973 годзе ў касцюковіцкай раённай газеце.

Пры жыцці выдаў зборнікі паэзіі "Белы Камень" (1983), "Чытаю зоры" (1988), "Планіда" (1994), "Вершы" (1997), "Журавель над студняй" (1998), "Я не памру, пакуль люблю" (2000), кнігі для дзяцей "Заўзятары" (1993), "Ласуны-веселуны" (1996), "Мы з братам" (2003). Пасля смерці выйшла кніга вершаў і эсэ "Думаць вершы...", у якую былі ўключаны і ўспаміны пра паэта, паэтычны зборнік "Не знікай..." і зусім нядаўна – кніга для дзяцей "Чаму вожык не стрыжэцца?".

Творы Алеся Пісьмянкова перакладаліся на рускую, украінскую, балгарскую і польскую мовы, асобныя вершы пакладзены на музыку і сталі песнямі.

Алесь Пісьмянкоў – лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.

Памёр 23 красавіка 2004 года.

